# ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА

двухтыднёвая часопіс для меншых дзяцей

1933 г. № 3

ГОД ВЫДАНЬНЯ 5

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ




## ВАЙСКОВАЯ ПЕСЬНЯ

За марамі, за гарамі —
Нам не ў навіну —
Трубы песьню заігралі,
Песьню пра вайну.

Мусіць, прыдзецца зноў
біцца,
Бы ў дваццаты год:
На савецкія граніцы
Новы йдзе паход.

Генэрал, з ім бандаў
зграя
Вышлі ваяваць.
Над палямі ўжо лятаюць
Крумкачы й крычаць.

Ды ня першы раз нам
біцца,
Нам не прывыкаць.
Мы здалеем ад граніцы
Банды адагнаць.

Будзе ведаць пан
пракляты,
Як ісьці на нас.
Загрымяць усе гарматы
У патрэбны час.

Выдзем дружна мы
змагацца
Пад сьвінцовы град.
Абаронім сваю працу,
Свой савецкі край.

Наркомваенмор К. Я. ВАРАШЫЛАЎ

# XVIII










## 23-га лютага — дзень Чырвонай арміі.

Чырвоная армія сьвяткуе сваю 15-ю гадавіну. Разам з ёю сьвяткуюць гэта сьвята ўсе працоўныя і іх дзеці.

Вялікі і слаўны шлях прайшла наша Чырвоная армія. Яна разьбіла ўсіх сваіх ворагаў і зараз цьвёрда стаіць на варце межаў СССР.

Прывітаньне слаўнай Чырвонай арміі ад піанэраў і акцябрат!

**НЯХАЙ ЖЫВЕ ЧЫРВОНАЯ АРМІЯ!**

# ГЕРОІ ЧЫРВОНАЙ АРМІІ



## М. В. ФРУНЗЭ

**Міхаіл Васільлевіч Фрунзэ стары бальшавік, загартаваны ў рэвалюцыйным змаганьні з царызмам.**

**Два разы прысуджваў царскі ўрад М. В. Фрунзэ да кары сьмерцю, але ён шчасьліва яе ўнікаў. Пасьля Кастрычніцкай рэвалюцыі Фрунзэ становіцца адным з самых баявых, здольных і верных салдат і правадыроў рабочае клясы.**

**Міхаіл Васільлевіч зьяўляецца героем усходняга і паўднёвага франтоў. Ён перамог генэралаў Калчака і Ўрангеля. У 1925 г. тав. Фрунзэ назначаецца Народным Камісарам па вайсковых і морскіх справах і старшынёю Рэвалюцыйнага Ваеннага Савету СССР.**

**Памёр тав. Фрунзэ ў кастрычніку 1925 г.**

**У яго асобе партыя страціла свайго лепшага члена, рабочая кляса і армія—свайго правадыра.**

# СПАКОЙНА І ВЕРНА

У часе змаганьня з Махно тав. Фрунзэ ледзь не загінуў праз сваю сьмеласьць і ўпартасьць.

Гэта было ўлетку 1921 г. у Палтаўскай губэрні, каля сяла Рашацілаўка. Тав. Фрунзэ тады змагаўся з бандамі Махно.

Штаб Фрунзэ знаходзіўся недалёка ад сяла Рашацілаўкі, дзе меліся адбыцца бойкі з Махно. Тут павінны былі знаходзіцца нашы вайсковыя часьці. Жадаючы праверыць, ці выкананы яго загад і самому наглядаць за боем, тав. Фрунзэ выяжджае ў Рашацілаўку з двума чырвонаармейцамі.

На кругавідзе ў гэты час відаць быў вайсковы рух. Тав. Фрунзэ заўважыў гэта і думаў, што там нашы атрады. Ён спакойна



ўяжджае ў сяло. Тут сустракаецца з вялікім атрадам коньнікаў.

— Хто вы?—пытаецца Фрунзэ.

— А вы хто?

Тав. Фрунзэ загадвае пад'ехаць камандзіру. На тав. Фрунзэ настаўляюцца вінтоўкі.

— Стойце, не страляйце, — гэта камандуючы,—крычыць адзін з чырвонаармейцаў, што быў з Фрунзэ. Ён ня верыў яшчэ, што гэта атрад махноўцаў і тут-жа, здаецца, падае забітым.

Пачынаецца шалёная пагоня і абстрэл тав. Фрунзэ, якога выратоўвае ад вернай сьмерці яго конь. Махноўцы адстаюць, але двух з іх вось-вось насьцігнуць т. Фрунзэ.

Аднак Міхаіл Васільлевіч астаўся спакойным і вытрыманым да канца. Ён зьлез з каня, прыцэліўся і ўлажыў аднаго махноўца, а другі пасьля гэтага ўцёк назад.

У той-жа дзень я бачыў тав. Фрунзэ з дзьвюма ранамі, якія атрымаў ён у часе гэтае сутычкі. Але тав. Фрунзэ спакойна працаваў у сваім вагоне—штабе, даваў загады, як-бы і нічога ня здарылася.



**Клімэнт Яфрэмавіч Варашылаў нарадзіўся ў 1881 годзе ў сям'і чыгуначніка. Служыў парабкам у кулака, пастухом у пана, працаваў на шахтах. Пасьля паступіў на ліцейны завод. Быў сьлесарам. З маладых год Клімэнт Яфрэмавіч пазнаў „асалоду“ царскіх турмаў.**

**У часе грамадзянскай вайны т. Варашылаў камандаваў арміямі.**

**Пасьля сьмерці М. В. Фрунзэ тав. Варашылаў заняў яго пасаду. Ён цяпер зьяўляецца Народным Камісарам Вайсковых і Морскіх спраў і Старшынёю Рэвалюцыйнага Ваеннага Савету СССР.**

# Перш аб другім, пасьля аб сабе

Як вокам скінуць, віднеецца пустыня беласьнежнай Данской раўніны. Здаецца, што вось ад Батайска да Растова — плюнуць можна. Але на 7 вёрст ня плюнеш аднак.

А вось гарматы дзень і ноч плююць па станіцы—пасылаюць знарад за знарадам. І раўніна зусім не раўніна, а балота, гразкае, зыбучае, не замярзаючая данская твань.

Праваліўся конь, прапаў казак, — ня выцягнеш. Адразу магіла гатова, зацягне, заплыве.

У Батайску белыя.

Наша конная армія робіць спробы ўзяць Батайск, выбіць адтуль ворага. Але ўзяць Батайск ня так то лёгка.

Невялічкімі часьцямі перапраўляецца армія праз Дон. Вада на аршын паверсе лёду імчыцца ў мора. Перацягваюць праз Дон гарматы.

Белыя засыпаюць знарадамі, ірвуць гранатамі лёд. Падаюць байцы, але другія ідуць.



На рыжым жарабцы едзе ў бой Варашылаў. Знарады кладуцца густа - густа. Прышпорыўшы каня, Варашылаў імчыцца па Доне наперад.

І раптам на вачох тысячы байцоў Варашылаў разам з канём зьнікае пад вадою.

— Братва, сюды—Варашылаў топіцца!

Вынырнуў конь. Тут-жа каля вялізарнай палонкі, па пояс у вадзе, дзесяткі байцоў. Яны і ўвагі ня бяруць на візг знарадаў.

Вынырнуў Варашылаў. К яму працягваюцца сотні рук. Выратавалі, і ўжо жартуюць.

— Клім Яфрэмавіч, з лёгкім парам...

Усьміхаецца, а зуб на зуб не пападае. Вада ледзяная.

— Ну, дзякую! Я сам як-небудзь, а вы едзьце, абсушэцеся, вы-ж па шыю мокрыя.

З жартамі, сьмехам паўскаквалі чырвонаармейцы на коняй. Памчаліся даганяць часьці.

— Абсохнем. Аб другіх клапоцішся, а сам-жа сухі?

А траіх засталіся, ня пусьцілі Варашылава далей. Паехалі ў горад сушыцца.



## С. М. БУДЗЁННЫ

**Будзённы—гэта імя, якое наводзіла жах на ворагаў рэвалюцыі.**

**Хто-ж такі Будзённы?**

**Селянін, данскі казак. Ніякай вайсковай адукацыі ў яго ня было, а стаў славутым на ўвесь сьвет за сваё ўмелае камандаваньне.**

**Невялічкі атрад арганізаваў ён у 1918 г. для барацьбы з ворагамі савецкай улады. А ўвосень 1919 г. у яго было ўжо некалькі дзесяткаў тысяч добрых ваякаў-коньнікаў.**

**Разам з тав. Варашылавым Будзённы са сваёю коньніцаю разьбіў дзянікінскае войска. А пазьней разьбіў і Урангеля.**

# ПЕРШЫ БАЯВЫ НАЛЁТ

Будзёнаўскі корпус заснаваўся ў лютым 1918 г.

Родная станіца Будзённага занята генэральскімі атрадамі. Будзённы з некалькімі сваякамі хаваецца на суседнім хутары. У іх ёсьць толькі дзьве вінтоўкі, рэвальвэр, шабля ды 50 патронаў.

Крадком прабраўся Будзённы да маткі і даведаўся, што ў станіцы 60 белых казакаў і 200 калмыкоў. У памяшканьні ўправы знаходзіцца 300 арыштаваных сялян. Там і бацька Будзённага. Спачатку было больш, але некаторыя ўжо расстрэлены.

— Трэба вызваліць. Нічога, што нас мала, галоўнае „ура“ мацней крыкнуць і страляць,—сказаў Будзённы.

Падкраліся ўночы. А ў гэты час з управы выводзяць арыштаваных расстрэльваць.

— Ура! Ура! Ура! Бах! Бах! Бах! Ура!

Будзённы да арыштаваных:

— Крычэце „ўра“!

— Ура! Ура!

Страх такі нагналі, што белыя тут-жа разьбегаліся, хто куды.

Вызвалілі арыштаваных, захапілі 4 кулямёты, 100 вінтовак, патроны, коні. Усё, што трэба для атраду. Пасьля злучыліся з другімі атрадамі.





## В. І. ЧАПАЕЎ

**Сын беднага селяніна, радавы салдат царскай арміі, ён у Чырвонай арміі стаў правадыром, камандзірам 25 Чырвонасьцяжнай дывізіі.**

**Да рэвалюцыі Васіль Іванавіч Чапаеў быў няпісьменным. Навучыўшыся пісаць і чытаць, ён з вялікаю ахвотаю накінуўся на кніжкі, дзе апісвалася аб вялікіх вайсковых правадырох.**

**У Чырвонай арміі Чапаеў паказаў сябе, як здольны камандзір.**

**Усе чырвонаармейцы любілі і паважалі свайго правадыра. Яны сьмела, адважна ішлі за Чапаевым, куды той загадваў. Васіль Іванавіч таксама любіў сваіх чырвонаармейцаў: ён спаў разам з імі, гутарыў, разам з імі змагаўся супроць ворага.**

**А змагаўся Чапаеў заўсёды па-геройску і памёр ён геройскаю сьмерцю.**

# ЯК ЗАГІНУЎ ЧАПАЕЎ

Было гэта ў хмурны асеньні дзень, на высокай гары, на беразе рэчкі Уралу. Белыя акружылі штаб дывізіі з усіх бакоў. Сабраў тады Чапаеў жменьку адважных чырвонаармейцаў і пачаў абараняцца.

Але вось канчаюцца патроны. Страляць няма чым, а белыя ўсё бліжэй ды бліжэй... Жменька адважных чырвонаармейцаў пры-

ціснута да берагу. Падаюць забітыя і раненыя, а Чапаеў усё трымаецца.

Навакол трупы, стогны раненых, а Чапаеў стаіць адзін на высокім беразе і адстрэльваецца... Адна рука ранена, ён выцірае кроў рукавом і ўсё страляе. Але вось апошняя куля выпушчана...

— Цяпер мы захопім яго! — радуюцца ворагі.

Але не! Не на таго нарваліся! Чапаеў скочыў з высокага берагу і быстрыя каламутныя хвалі схавалі яго цела. Так памёр Чапаеў.

Чырвонаармейцы 25-й дывізыі і ўся Чырвоная армія ніколі не забудуць імя Чапаева.



# ГЕНЭРАЛАМ ДАЛІ АДПОР


В. К. БЛЮХЭР.

**Гэта было ў 1929 годзе. Кітайскія генэралы, падкупленыя капіталістамі ўсіх краін, напалі на нашу краіну. Яны захапілі Кітайска-Усходнюю чыгунку. Падвезьлі да нашай граніцы войска і распачалі вайну.**

**Але-ж скора ўбачылі генэралы, што Савецкі Саюз непераможны. Асобая Далёка-Усходняя армія пад камандай тав. БЛЮХЭРА зьмяла ўсіх кітайскіх генэралаў з граніцы, дала ім належны адпор.**

**Нашы чырвонаармейцы абыходзіліся з кітайскімі рабочымі і сялянамі як з братамі. І працоўныя Кітаю ўбачылі, што не саветы іх ворагі, а генэралы і буржуазія.**

# КІТАЙСКІ ПІАНЭР

Ноччу кітайскія войскі напалі на нашу станіцу. Чырвонаармейцы далі ім адпор, прагналі далёка ад станіцы.

У бліжэйшым да станіцы горадзе паднялася суматоха. Паліцыя ўцякала. Арыштаваныя скарысталі гэта. Яны вырваліся з турмы на волю. Сярод іх быў хлопчык.

Ён дабег да нашай пазыцыі. Нешта закрычаў і ўпаў вобземлю, нібы цяжкі камень.

Чырвонаармейцы ўзялі яго.

Ён прахапіўся, зірнуў кругом і раптам пачаў сьмяяцца ды куляцца.

Чырвонаармейцы думалі, што ён страціў розум. Паклікалі кітайскага перакладчыка. Той пагаварыў з хлопчыкам і расказаў:

— Хлопчыка завуць Лі-Юн-Чжэн. Ён піанэр і за гэта яго судзілі і пасадзілі ў турму на 8 гадоў. Ён ужо прасядзеў у турме 3 гады. Калі-б ня зьбег, дык яшчэ-б сядзеў пяць год. Ён хоча ў Маскву.

Яго білі ў турме кожны дзень.

Хлопчык зьняў сарочку. Усё яго цела было ў сінякох і крывавых плямах.

Чырвонаармейцы ўзялі хлопчыка да сябе.



# Перабежчык

Пасьля бойкі аднаму кітайскаму салдату ўдалося перабегчы да нас.

Ад слабасьці ён ледзь на нагах трымаўся. Чырвонаармейцы накармілі яго хлебам і кашай. Ён быў вельмі галодны і хлеба не жаваў, а глытаў.

Гэты кітаец—рабочы. Яго, як і тысячы другіх, генэралы паслалі на вайну і сказалі: „Вы павінны біцца з рускімі, рускія хочуць адабраць у нас чыгунку“.

Гэта расказваў нам кітаец праз перакладчыка.

— Але мы не хацелі ваяваць. Мы галодныя і хацелі есьці.

Адзін з нашых камандзіраў падаў кітайцу папяросу. Але той ня браў.

— Чаму-ж ты не бярэш?

Кітаец не адказаў на гэта. Потым, нібы апамятаўшыся, схапіў папяросу і сьлёзы пырснулі з яго вачэй.

— Я верыў... Я... — прашаптаў ён праз плач,—афіцэр нам казаў, што бальшавікі

вешаюць перабежчыкаў. Дык мы баяліся пераходзіць да вас.

Камандзір сказаў:

— Калі хочаш, ідзі да сваіх. Ты вольны.

— Ні за што! Там мяне будуць біць палкамі. Афіцэр мяне загадае расстраляць. Я не хачу ваяваць. Не праганяйце мяне.

Яго не прагналі.





# ЧЫРВОНААРМЕЙЦЫ

Верш П. Броўкі



Трымай нагу ў паходны такт!
Гарніст, іграй, зьвіні!
Мы звонкіх цэхаў, гулкіх шахт,
Палёў сваіх сыны.

Гатовы мы. Сьмялей вядзі,
Таварыш камандзір!
Партыйны лёзунг твой і наш:
— Пад пяцігодкі стройны марш—
а-р-р-ш-ш!

Там пан шарэнгі выстраіў
На нашу галаву

І шабель звон за Віслаю
На Менск і на Маскву.

І на спатканьне вышаў
Ў авечай скуры воўк.
... Узьняліся міністры —
Служакі ўладароў,—

Каб мы жылі астачай
Ад панскага стала,
Каб мы ізноў жабрачылі,
А лютаваў улан.

Мы маршамі ударных рот
Гатоўнасьць сваю ўзьнімем.
Пільнуй палі, пільнуй завод!
Глядзі за Нёман пільна.



# ПЕРАКОП

**Далёка ад нас, на беразе Азоўскага мора, ёсьцьПеракопскі пярэсмык. Злучае ён паўвыспу Крым з Эўропаю; шырыня яго розная — ад 7 кілёмэтраў да 23-х. Некалі пярэсмык быў перакопаны канаваю.**

**У 1920 годзе адбыліся тут вялікія бойкі з генэралам Урангелем. Тры дні бесьперапынна ішла барацьба. Не ўстаяў вораг супроць Чырвонай арміі— пакінуў Крым. Уцёк з рэшткамі свайго войска за мяжу.**

**У гэтым нарысе апавядаецца пра тыя гераічныя дні, калі Чырвоная армія брала Перакоп.**

Глухая асеньняя ноч.
Сёньня прачыталі загад тав. Фрунзэ:
„Чырвоныя байцы фронту!
Для нас настаў час апошняга і рашучага бою.
Кожны павінен выканаць свой абавязак да канца.
Наперад на ворага!“

Чырвоная армія рушыла па высахшым дне Гнілога мора. Вады ня было, але яна магла зьявіцца кожны дзень, кожную гадзіну.

Гэтак і здарылася. Уночы пачаў дзьмуць вецер, і паказалася вада з Азоўскага мора. Пачалася ўпартая барацьба. За чырвоных былі сяляне. Яны кідалі ў мора скруткі саломы, каб запыніць дарогу вадзе.

Уся вёска, ад малога да вялікага, вышла на змаганьне з морам. Яны перакапалі мора, насыпалі вал зямлі. Але вада прасочвалася, паўзла пад ногі байцоў, затапляла вазы.

Калі апошнія часьці ўзышлі на паўвыспу, за імі было ўжо мора. Назад дарогі ня было. Шлях быў толькі наперад. Наперадзе бушаваў агонь ад стральбы белых.

— Таварышы, за мною!—крыкнуў стары камісар палка.— Калючая загарожа перарэзана разьведчыкамі сёньня ўночы. Наперад!

Чырвоныя байцы кінуліся на ворага. Страляніна станавілася ўсё больш і больш грознай. Кулямёты трашчалі без перасьціханку.

А 11-га лістапада радыё разносіла па ўсім сьвеце паведамленьне:

**„Перакоп узяты. Армія Ўрангеля разьбіта. Гнязда контр-рэвалюцыі разбурана“.**






(З жыцьця Заходняй Беларусі)

Апавяданьне Я. Завадзкага
Малюнкі Г. Ізмайлава

Бацька Антося быў арыштаваны адразу-ж пасьля таго, як паліцыя разагнала дэманстрацыю рабочых.

Цяпер у невялічкай хатцы на самым беразе рэчкі засталіся ўдваіх: Антось і яго меншая 10-гадовая сястра Анюта.

Прышлося старацца цяпер грошай на пражыцьцё ім самім. Антось замяніў бацьку, а Анюта—Антося. Цяпер ужо Антось быў перавозчыкам, Анюта-ж зьбірала грошы з пасажыраў.

Ад цямна да цямна перавозілі яны людзей праз рэчку, увесь час паглядаючы ў той бок, куды павялі іх бацьку.

— Ну, калі яго выпусьцяць?—пыталі яны адно ў аднаго.

Аднойчы пад вечар у хату ўвайшоў гаспадар лодкі і заявіў дзецям:

— Ваш бацька памёр у турэмнай бальніцы. Мне трэба здаваць хату і лодку другому. Выбірайцеся адгэтуль куды хочаце.

Загаласіла Анюта на ўсю моц. Нічога ня можа зразумець спачатку Антось. У адзін момант перад ім паўсталі малюнкі арышту бацькі. Ён добра памятае: ускочылі ў хату жандары з белымі арламі на шапках, арыштавалі бацьку і ўсё пыталіся ў яго:

— Дзе зброя?

— Няма ў мяне, няма,—адказваў бацька.

Тады яны прысталі да Антося. Спачатку ласкава, а пасьля з пагрозаю:

— Кажы, дзе зброя?

— Ніякай зброі ў нас няма і ня было.

— Няма, няма!—перадражніў жандар і сьцебануў бізуном Антося.

Задрыжаў Антось, апусьціўся на зямлю ў вугал і шаптаў ад злосьці, ад здушаных у горле сьлёз:

„Хоць забеце, зладзеі... усёроўна ня знойдзеце зброі, бо няма яе ў нас“...

А як выходзілі жандары з хаты з бацькам, Антоська хутка ўскочыў на ногі і, сьціскаючы свае кулакі, закрычаў усьлед ім:

— Пачакайце... Ня зброю, а кулю атрымаеце!

Прайшло перажытае перад вачыма Антося, зьнікла раптоўна і зноў перад сабою ўбачыў Антось гаспадара.

— А як-жа з грашыма будзе? Ні тата, ні я не атрымлівалі тры месяцы грошай. Усю выручку аддавалі вам.

Зарагатаў на ўсю хату гаспадар:

— На гэта, галубчыкі, забудзьцеся. Для такіх бунтаўшчыкоў, як ваш бацька, няма грошай. Заўтра-ж выбірайцеся з мае хаты,—сказаў нарэшце гаспадар і вышаў.

— Яго хата!.. Яго хата!..—мільгала думка ў галаве Антося.—Тата яе збудаваў, у ёй дванаццаць гадоў пражылі мы. Тут мама памерла ў 1920 годзе ад бізуноў жандармаў. А цяпер ён гоніць нас: „ідзі, куды хочаш“.

* * *

Увечары зьбіраліся Антось і Анюта ў дарогу да дзядзькі.

— За два дні зойдзем. Сорак вёрст усяго,—пацяшаў Антось.

— Добра, што ты дужэйшы, а я змаруся.

— І ты зойдзеш, памаленьку пойдзем.



—Кажы, дзе зброя?

У гэты час пастукаў хтосьці ў вакно. Падышоў Антось к вакну, чуе голас знадворку. Пазнаў — прышоў Цімох Саўчанка, які часта заходзіў вечарамі к бацьку і гаварыў з ім доўга, доўга.

Вышаў Антось на двор.

— Вязі мяне на той бок, толькі як мага скарэй.

— Зараз, пачакайце адну хвілінку.

Антоська скоранька надзеў кафтанік і, схапіўшы з сьцяны ключ ад лодкі, у момант апынуўся на беразе рэчкі.

— Мяне ловяць гэтыя сабакі, я ўцёк з турмы. Яны напалі на мой сьлед і напэўна скора тут будуць. Ты ім не кажы, што перавозіў мяне, а то яны будуць біць цябе, а я пастараюся схавацца.

Антось, адвёзшы Саўчанку, прывязаў лодку да слупа і варочаўся дахаты. Да яго падбегла трох жандараў.

— Ты каго перавозіў? — пачуўся голас жандара над самай галавой Антося.

— Пасажыра,—бойка адказаў Антось.

— Але хто ён такі? Адкуль ён прышоў?—прыставаў жандар.

— Я яго ня ведаю,—зманіў тут Антоська.

— Ну дык вязі і нас траіх на той бок. Скарэй толькі!

— Баюся, вецер узьнімаецца, бачыце, які дождж льле.

— Вязі, зараз-жа. Доўга не размаўляй,—ускіпеў адзін жандар.

Убег Антоська ў хату, узяў брэзэнт, каб накрыць пасажыраў і пайшоў разам з жандарамі да рэчкі.

Ускочылі жандары ў лодку, укруціліся ў брэзэнт і прытуліліся адзін да другога.

Улез Антось па пояс у ваду, каб адамкнуць лодку. Рукі пазяблі, прамок увесь, а дождж льле без перасьціханку. Сьвішча вецер, завывае.

Корпаецца Антось каля замка, а ў галаве адна думка не дае супакою: „Утапіць зладзеяў. Утапіць рабаўнікоў"...

— Гэй, ты, скарэй там длубайся!—пачуўся нецярплівы голас з-пад брэзэнту.

Уздрыгануўся Антось і толькі адказаў ім на гэта:

— Гатова.

Ён упёрся нагамі ў камень і моцна штурхануў лодку.

Памчалася лодка, падхапілі яе хвалі быстрае рэчкі, адагналі на сярэдзіну.

Здагадаліся жандары, скінулі брэзэнт з сябе, нарабілі крыку. Але позна было.

Крутнулася лодка, загойдалася і... кульнулася на бок.

Паглядзеў Антось, упэўніўся ў сваёй помсьце і пабег у хату.

— Ну, Анюта, цяпер бяжэм адгэтуль. За тату і маму я адпомсьціў. І з гаспадара грошы сыскаў: ня ўбачыць ён больш сваёй лодкі.



Загойдалася лодка і... кульнулася на бок.




У буржуазных краінах дзіцячая праца ўжываецца ня толькі на заводах, але і пад зямлёй.. у шахтах. Такое катаржнае жыцьцё малых нявольнікаў буржуазія і папы лічаць за „рай“. Аб гэтым гавораць разьвешаныя пры ўваходзе ў шахты плякаты.

# САМАЛЁТ

Ты хочаш мець самалёт?—зрабі вось што:

Вазьмі паленца даўжынёю 30 сантымэтраў, а таўшчынёю—7-8. Лепш за ўсё, калі знойдзеш ножку ад паломанай табурэткі. Потым абстружы, каб вышла такая фігура (глядзі мал. 1). Верх фігуры павінен быць плоскім, а бакі і шыя закругленымі. Гэта будзе корпус самалёту.

З фанэры выпілуй дзьве пласьцінкі па 30 сантым. даўжынёю і 7 шырынёю. Гэта будуць крыльлі (малюнак 2).

Вазьмі палку таўшчынёю ½ сантымэтра і зрабі кіёчкі: два па 5 сантым. даўжынёю, а адзін—9.

Цяпер з фанэры выпілуй два колцы шырынёю па 4 сантым. у папярочніку, пракруці ў іх дзіркі. Надзень колцы на большы кіёчак, каб яны круціліся, і прымацуй да гэтага кіёчка меншыя кіёчкі (глядзі мал. 3).

Канцы кіёчкаў прымацуй да корпуса самалёту (мал. 4).

З фанэры выраж прапэлер, 9 сантым. даўжынёю (мал. 5).

Выраж таксама з фанэры хвост самалёту, даўжынёю 9 сантым. (мал. 6).

Цяпер цьвікамі прыбі крыльлі да корпуса самалёту. Прыбі зьверху і зьнізу адно насупроць другога.

Прапэлер прыбі (ня шчыльна, каб ён круціўся) сьпераду да корпуса, а хвост—на канцы.

Калі ўсё зробіш гэта — самалёт гатоў (мал. 7). Можаш яго цяпер пафарбаваць, намаляваць нумар, зорку, вокны кабінкі.

Калі хочаш, каб твой самалёт лётаў, зрабі вось што:

Пасярэдзіне верхняга крыла ўбі два цьвікі без галовак, сагні іх і надзень шпульку ад нітак, каб яна круцілася.

На дварэ прывяжы да двух кійкоў дрот: адзін канец вышэй, а другі ніжэй. Самалёт павесь на дрот, як паказана на мал. 7. За хвост самалёту прывяжы вяроўку, каб зноў прыцягнуць яго пасьля спуску з ніжэйшага канца ў вышэйшы, дзе будзеш стаяць сам.

# РЭБУС

Рэбус—гэта асаблівы, цікавы спосаб пісьма. Пісаць можна ня толькі літарамі. Тут напісаны адзін піянэрскі лёзунг. Але які? Як яго прачытаць? Для гэтага трэба ведаць некаторыя ўмоўныя значкі. Напрыклад, заместа слова, альбо часткі яго, даецца малюнак. Коскі справа ці зьлева ад малюнка паказваюць, колькі літар трэба адкінуць ад слова, напісанага малюнкам. Апрача гэтага патрэбна яшчэ здагадка.

Адказ чытайце і правярайце ў № 5 за сакавік месяц.




---

## Падпісвайцеся

на 2-тыднёвую ілюстраваную акцябрацкую часопісь

# іскры ільліча

### УМОВЫ ПАДПІСКІ:

| | | | |
|---|---|---|---|
| на 1 месяц | (2 нумары) — | | 35 кап. |
| „ 3 „ | (6 нумароў)— | 1 руб. | 05 „ |
| „ 6 „ | (12 нумароў)— | 2 „ | 10 „ |
| „ 1 год | (24 нумары) — | 4 „ | 20 „ |

ПАДПІСКУ ЗДАВАЙЦЕ НА ПОШТУ І ЛІСТАНОСЦАМ

# БУДЗЬ НА ВАРЦЕ

**ЦЬВЁРДА, У НОГУ**




Больш работы, меней слоў!
Будзь на варце, піанэр!
Наш атрад заўжды гатоў
К абароне эС-эС-эС-эР
(2 разы).

Каб вінтоўку, кулямёт
Добра ведаць, добра знаць,
Мы вайсковыя гурткі
Будзем, дзеці, утвараць!
(2 разы)

Пройдзе час, і кожны з нас
Стане межы вартаваць,
Каб савецкі вольны край
Мог і жыць, і будаваць
(2 разы).

Больш работы, меней слоў!
Будзь на варце, піанэр!
Наш атрад заўжды гатоў
К абароне эС-эС-эС-эР
(2разы)

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ
„ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА"

Рэдактар—А. ЯКІМОВІЧ.

Друкарня імя Сталіна Зак. № 537. 5680 экз. Менгарліт № 1440

